

## «Выбери меня!» Выбрали!

В Ганцевичском районе лишь на трех избирательных участках в районный Совет баллотировались по два кандидата.

См. стр. 2



## Масленіца прыйшла – вясну прынясла

2 сакавіка ў Ганцавічах прайшло тэатралізаванае свята «Бывай, зімушка-зіма». Мерапрыемства прайшло цікава і захапляюча.

См. стр. 3



## У вольнай барацьбе ганцаўчане лепшыя

Чатыры першыя месцы і 10 прызовых – такога выніку дасягнулі ганцавіцкія спартсмены ў першынстве па вольнай барацьбе.

См. стр. 6

газета выдавецкага дома «Інтэкс-прэс»

# Ганцавіцкі час

час праўдзівых навін

№ 10 (11) Пятніца, 7 сакавіка 2003 г. Выдаецца з 24 мая 2002 г.

# Са святам, каханыя!

*Зноў не да песень, не да сну,*
*І мы, пакуль дарма,*
*Чакаем столькі дзён вясну,*
*Ну а яе няма.*
*Лядзяш каля страхі – бы цвік,*
*І сонца слаба грэе.*
*Такі цікавы сакавік –*
*Марозы і завеі.*
*Няхай пакуль што доўгі цень,*
*І ў полі снег – паркалем.*
*І ўсё ж прыходзіць гэты дзень,*
*Які мы так чакалі.*
*І сумаваць няма прычын*
*(мы ў пошуку зацятым),*
*І мы віншуем ўсіх жанчын*
*З такім цудоўным святам.*
*Мы сталі іншымі зусім*
*І адышлі ад прозы.*
*Нясём мы падарункі ім,*
*І ружы, і мімозы.*
*...Мы ганцаўчанкам шлём паклон,*
*І зычым мець заўсёды*
*На тыдні – сем шчаслівых дзён.*
*І бульбы ў агародах.*
*Каб журавін і буякоў*
*Быў ураджай харошы.*
*І каб з Расіі мужыкоў*
*Цягнік не вёз без грошай,*
*Салодкія хай сняцца сны*
*І ў ноч, і на світанні...*
*Са святам шчасця і вясны,*
*Настрою і кахання!*



Коллаж Нины Федотовой



## «Есть контакт!»

*Если у вас имеется «горячая» информация, интересные новости, вопросы и предложения, если вы хотите высказать свои претензии и дать полезный совет, звоните нам.*

**В понедельник, 10 марта, с 16.00 до 18.00 на ваши звонки отвечает**

**Петр ГУЗАЕВСКИЙ по тел. 2-14-50**



Власть и мы

# «Выбери меня!» Выбрали!

**"Выбери меня, выбери меня," - пели в шлягере восьмидесятых, - «птицу счастья завтрашнего дня...» Хорошая песня про выборы...**



Фото автора

•Что посыплется из рога изобилия?..

В Ганцевичском районе подавляющее большинство избирателей были лишены права выбора, потому что выбирать было не из кого. Почти на всех избирательных округах «птицу счастья завтрашнего дня» представлял один кандидат. Лишь на трёх избирательных участках в районный Совет баллотировалось по два человека. Все три претендента, а это врач-неонатолог Леонид Дыдышко, врач-реаниматолог Михаил Полховский и директор Любашевской БШ Игорь Друщиц, которые осмелились пойти путём сбора подписей от избирателей практически одной командой, остались без депутатских мандатов.

На всех избирательных участках выборы состоялись. Лишь по Гагаринскому избирательному округу №7 ни один из кандидатов в депутаты не набрал более 50%. Чтобы стать депутатом, Леониду Дыдышко не хватило 2,3% голосов (!). Его оппонент Виталий Сташенин набрал 34,5%. В этом округе до 16 марта должны пройти повторные выборы с другими кандидатами.

Корреспонденты «Ганцавіцкага часу» побывали на нескольких избирательных участках. Но почему-то к журналистам «ГЧ» некоторые представители районной вертикали по-прежнему остаются неравнодушными. Это чувство такое сильное, что, по меркам нашего времени, может, даже сильнее любви. И на этот раз не обошлось без эксцессов. Заместителю председателя райисполкома Викентию Монтику не хотелось, чтобы в помещении для голосования присутствовал корреспондент «ГЧ» Петр Гузаевский, на что он предложил председателю избирательной комиссии составить какой-то акт, дескать, журналист не аккредитован. (Интересно, на какой пункт закона делалась бы ссылка при написании акта, если в ст. 13. Закона о выборах четко сказано, что представители СМИ имеют право находиться в помещении для голосования по предъявлению удостоверяющего документа...) Председатель комиссии Закон о выборах знала и претензий к представителю СМИ не предъявила.

К этапу подсчета голосов комиссия отнеслась очень ответственно, и бюллетени считали почти до половины двенадцатого ночи. При этом комиссией была соблюдена строгая последовательность вскрытия и подсчета голосов. Вместе с тем урну досрочного голосования принесли на подсчет из другого помещения. По словам председателя избирательной комиссии, она хранилась в сейфе. Но согласно закону она должна быть в день выборов в помещении для голосования. И вот что интересно. Из 177 бюллетеней в урне досрочного голосования 134 голоса были за председателя сельисполкома В. Гордея. А у И. Друщица всего 34 голоса «за». В то время как результаты голосования после выборов стационарной урны были практически равными.

Конечно, утверждать однозначно, что кто-то их подправил, нельзя. Но когда почти 23 % из числа принявших участие в выборах голосует досрочно, такие мысли не лишены права на жизнь.

А в целом выборы в районе прошли как по маслу. С 24916 избирателей участие в голосовании приняли 21725 человек, или 87%. Вот их результаты: в областной Совет по Ганцевичскому округу №26 избрана Ирина Борисовна Мартинкевич, начальник отдела культуры Ганцевичского райисполкома, по Кривошинскому избирательному округу №45 в области наш район будет представлять Михаил Денисенко, начальник отдела по делам молодёжи Брестского облисполкома.

В районный Совет выбраны:

по Октярьскому изб. окр. №1 – Михаил Сергеевич Братанов (69,4%), преподаватель Ганцевичского профессионального лицея сельхозпроизводства,

по Школьному №2 – Александр Владимирович Шут (60,3%), директор ПМС,

по Спортивному №3 – Валентина Владимировна Лисок (66,1%), начальник инспекции Министерства по налогам и сборам,

по Строительному округу №4 – Александр Иванович Лыгановский (69%), директор СШ №1,

по Завоскому округу №5 – Валентина Петровна Шостак (55,5%), председатель районной организации Белорусского общественного объединения ветеранов,

по Гагаринскому №6 – Владимир Владимирович Кондратюк (57,6), предприниматель,

по Молодежному №8 – Юрий Владимирович Шабунин (68%), военком Ганцевичского райвоенкомата,

по Пушкинскому округу №9 – Сергей Витальевич Сороков (74,9%), директор СШ№2,

по Денисковичскому №10 – Владимир Константинович Давыдчик (85,3%), заместитель председателя Ганцевичского райисполкома,

по Лесному №11 – Александр Иванович Муха (80%), директор Ганцевичского лесхоза,

по Ганцевичскому сельскому округу №12 – Вячеслав Витальевич Сакович (68,6%), главврач РТМО,

по Любашевскому №13 – Владимир Николаевич Гордей (55,4%), председатель Любашевского сельисполкома,

по Люсинскому №14 – Софья Константиновна Наумик (83,8%),зав. фермы д. Маково,

по Мальковичскому №15 – Борис Васильевич Асовцов (78,7%), председатель Ганцевичского районного Совета депутатов,

по Большевикскому №16 – Вячеслав Вацлавович Шуляковский (92,1%), лесничий Мальковичского лесничества,

по Начскому №17 – Лариса Дмитриевна Мышковец (74,4%), заведующая яслей-садом д. Начь,

по Локтышовскому № 18 – Мария Адамовна Баран (89%), гл. агроном к-за "Правда",

по Куковскому № 19 – Михаил Николаевич Бобко (72,5%), директор Ганцевичской сельхозтехники,

по Шашковскому №20 – Ирина Борисовна Мартинкевич (75%), начальник отдела культуры,

по Большекруговичскому №21 – Светлана Брониславовна Ковш (73,6%), председатель Ганцевичского райпо,

по Хотыничскому №22 Владимир Ильич Вишневецкий (74,7%), начальник Ганцевичского РОВД,

по Пинскому №23 – Александр Кузьмич Минец (92,5%), главврач Хотыничской участковой больницы,

по Раздяловичскому №24 – Алла Максимовна Волосюк (69,2%), начальник финансового отдела Ганцевичского райисполкома,

по Будчанскому №25 – Иван Иванович Давыдчик (79,9%), председатель правления к-за "50 лет БССР",

по Чудинскому №26 – Александр Николаевич Барсукевич (50,5%), председатель Чудинского сельисполкома.

ИТАК, выбрали. И дальше будем жить, как говорится, с тем, что есть. Только прилетит ли к нам птица счастья?

Петр ГУЗАЕВСКИЙ

## Горожане отвечают

**Дарят ли вам подарки на 8 Марта и какой подарок вы мечтаете получить в этому празднику?**



**Юлия Кондратович, учащаяся СШ №1:**

– Обычно дарят подарки родители, чаще отец, и в школе – мальчики. Ещё иногда подарок получаю от бабушки с дедушкой. На 8 Марта хотелось бы в подарок получить какие-нибудь хорошие духи, а ещё моя мечта – съездить в Париж.



**Людмила Васильевна Конопацкая, работник ОАО «Пищевик»:**

– Любимый муж дарит обычно цветы, дети всегда поздравляют, что-нибудь дарят. А на вопрос, что хотелось бы, то я так мужу говорю: «Подари доченьку», потому что в моей семье уже два сына.



**Светлана Тимофеевна Новицкая, преподаватель Люсинской школы:**

– С 8 Марта поздравляют мои дети и ученики. Ученики дарят цветы, а дети – поделки, сделанные своими руками. А если помечтать, то в качестве подарка хотелось бы получить нормальную, достойную зарплату, а не тот мизер, который учителя имеют.



**Галина Ивановна, учитель в школе:**

– В 8 Марта поздравляют обычно на работе, в коллективе. Хотелось бы, чтобы уделялось больше внимания женщинам не только в предпраздничные и праздничные дни, но и в обычные.



**Марина Ленковец, учащаяся СШ №1:**

– К празднику дарят подарки мама, папа, в школе мальчики преподносят игрушки, дезодоранты. Моя мечта – получить в подарок букет роз и поездку в Афины.

Опрос провел Петр ГУЗАЕВСКИЙ

Мас-медыя

## Паважаныя чытачы і падпісчыкі!

Дзякуй, што вы не парываеце сувязі з "Ганцавіцкім часам", газетай, якая ўпэўнена ўвайшла ў вашы дамы, імкнецца стаць вашым надзейным сябрам і дарадцай. Да яе вы звяртаецеся са сваімі думкамі, просьбамі і праблемамі, якія падчас цяжка выравшыць. І журналісты газеты заўсёды гатовы працягнуць вам руку дапамогі. А як жа інакш! У цеснай сувязі з табой, чытач, наша сіла і жыццяздольнасць. Спадзяёмся, што з цягам часу яна стане яшчэ мацнейшай, а кола нашых сяброў істотна пашырыцца. Разам мы мацней! Разам нам любыя цяжкасці не перашкода!

А каб наша сувязь была яшчэ больш трывалай, а кола чытачоў і прыхільнікаў не звужалася, не забудзьце самі і парайце сваім знаёмым і сябрам падпісацца на "Ганцавіцкі час" на другі квартал 2003 года. Памятайце, "Ганцавіцкі час" — гэта газета для вас і пра вас! Разам мы зробім яе яшчэ больш цікавай і прывабнай, разам даб'емся вырашэння шматлікіх праблем нашага жыцця.

Аформіць падпіску на газету "Ганцавіцкі час" вы можаце ў любым паштовым аддзяленні сувязі раёна, у грамадскіх распаўсюджвальнікаў друку, а таксама ў рэдакцыі газеты, дзе падпісная цана зніжана на 14 працэнтаў. Скарыстайце гэтую магчымасць, станьце чытачамі, сябрамі і памочнікамі маладой незалежнай грамадска-палітычнай газеты "Ганцавіцкі час"! Яна апраўдае ўсе вашы надзеі і пажаданні.

**Зрабіце правільны выбар: заставайцеся з намі, і вы не пашкадуеце. "Ганцавіцкі час" — гэта ваша газета!**

Даты

## Свята беларускай міліцыі

4 сакавіка ўрачыста адзначылі Дзень беларускай міліцыі супрацоўнікі Ганцавіцкага раённага аддзела ўнутраных спраў. У гэты дзень амаль увесь асабовы састаў райаддзела (акрамя тых, хто заступіў на аператыўнае дзяжурства), а таксама ветэраны, былыя супрацоўнікі міліцыі ўрачыстым маршам пад гукі духавога аркестра прайшлі па вуліцах горада ад будынка РАУС на вуліцы Ламаносова да Кастрычніцкай плошчы райцэнтра.

Тут адбыўся невялікі імправізаваны мітынг. А потым міліцыянеры ўсклалі вянкі і кветкі да помніка загінуўшым у гады Вялікай Айчыннай вайны воінам і партызанам. Тут, дарэчы, у брацкай магіле пахаваны і адзін з першых начальнікаў Ганцавіцкага раённага аддзела міліцыі Леанід Чысцякоў, які загінуў у 1950 годзе ад рук бандытаў, а таксама былыя ўчастковыя ўпаўнаважаныя Павел Крыцкі, Канстанцін Высоцкі і іншыя, якія загінулі ў гады вайны ў барацьбе з ворагам.

Усяго ў час вайны у баях з фашыстамі і бандытамі загінулі больш за дзесяць ганцавіцкіх міліцыянераў. У іх гонар над прыціхлай плошчай прагрымелі залпы ружэйнага салюту.

Тут жа, ля помніка, прынеслі прысягу на вернасць служэнню Бацькаўшчыне, паабяцалі верна ахоўваць грамадскі правапарадак маладыя міліцыянеры, якія нядаўна папоўнілі рады вартавых парадку.

Кастусь МОХАР

Традыцыі

# Масленіца прыйшла – вясну прынясла

**2 сакавіка на гарадской плошчы адбылося тэатралізаванае свята "Бывай, зімушка-зіма!". Нягледзячы на тое, што на мерапрыемстве народу прысутнічала няшмат, сумаваць нікому не прыйшлося. Праграма была насычана гульнямі, конкурсамі, песнямі і цікавымі выступленнямі самадзейных артыстаў.**

Канцэртную праграму свята падрыхтавалі работнікі ГДК, і значную падтрымку ў гэтым ім аказалі ўдзельнікі дзіцячага калектыву РЦДЮТ "Жураўінка" пад кіраўніцтвам Святланы Мухі і Ліліі Вадзюцінай. Разам з галоўнай гераіняй гэтага свята Вясной яны спявалі песні і вадзілі карагод. Гледачам вельмі спадабалася выступленне трыо Надзеі Рэкуновай, Святланы Мухі і Яўгеніі Піліпенкі, якія нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е спявалі "ўжывую". Іх цудоўныя галасы хацелася слухаць яшчэ і яшчэ. Артыстак выклікалі на біс.



Фота аўтара

•Спалім чучала – і зімы не стане



Фота аўтара

•На вуліцы ўсё смачна

Кароным момантам свята стала спальванне чучала Зімы. Асабліва весела было на гульнёвых пляцоўках, якімі запраўлялі харэограф ГДК Вікторыя Калеснікович і метадыст РМЦ Жанна Палуян пры падтрымцы скамарохаў. Дзеці спаборнічалі ў гульнях "Рыбакі", "Бег у мяшках", "Скакалка" і іншых. Больш "сур'ёзнымі" конкурсамі былі заняты дарослыя, якім за прызавую пляшку прыходзілася есці лімоны.

Многія прысутныя спалучалі прыемнае з карысным і назіралі за падзеямі, якія праходзілі на святочнай пляцоўцы, частуючыся чаем з масленічнымі аладкамі, ды і не толькі чаем. Хапала ў райпоўскіх палатках і другіх больш дзейсных напояў для паднящця жыццёвага тонусу.

Задаволены былі і самі арганізатары мерапрыемства. Напрыканцы свята мастацкі кіраўнік ГДК Віктар Супрун з палёгкай уздыхнуў і сказаў: *«Здаецца, усё прайшло добра. І гэта пры тым, што многія работнікі культуры і нашы ўдзельнікі былі задзейнічаны ў выбарчым працэсе, а частка ўвогуле пахварэла. І самому так захацелася веснавога надвор'я».*

Павел БОГУШ

Природа и мы

## Охота пуще неволи

Унитарное предприятие «Белгосохота» объявило об открытии с 10 марта этого года сезона весенней охоты.

Согласно правилам первыми разрешается отстреливать перелётных гусей. Охотиться на них разрешается в утреннее время суток, а также после 18 часов вечера. Чуть позже, с 20 марта, охотники получат право поохотиться и на боровую дичь — тетерева и глухаря. Однако при охоте на этих птиц владельцы и арендаторы охотничьих угодий устанавливают нормы добычи дичи. Какие именно, охотники узнают при получении путёвок на право весенней охоты.

Есть и другое условие, которое неукоснительно должен выполнять каждый охотник: в период весенней охоты категорически запрещается уничтожать самок вышеперечисленных птиц. За соблюдением этого правила будут бдительно следить егеря и охотоведы. И ещё одно требование: охоту на боровую дичь разрешено вести с рассвета и до семи часов утра. Чуть позже с разрешения охотхозяйств начнётся отстрел вальдшнепа и селезня. Охота на эти виды птиц продлится до 10 мая 2003 года в выходные и праздничные дни.

Ни пуха вам ни пера, охотники!

Константин ЛУГОВОЙ

Акция

## Итальянцы – гости ганцевчан

2 марта 2003 года Ганцевичскую вспомогательную школу-интернат посетили представители Международного детского фонда «Поможем им жить» из Италии и государства Сан-Марино (Пиренейский полуостров).

Зарубежные гости знакомились с условиями жизни и учёбы детей с ограниченными умственными и физическими возможностями. Они посетили учебные классы и кабинеты, побывали в производственных мастерских, в школьном общежитии, столовой, в спортивном комплексе, имели продолжительную и непринуждённую беседу с учителями и детьми в актовом зале. Всем увиденным гости остались довольны. Однако они сочли возможным помочь воспитанникам школы лучше адаптироваться в жизни, найти в ней своё место, в чём, собственно, и заключалась цель их визита.

Особенно заинтересовали гостей спортивные успехи школьников. А они впечатляют. Юные волейболисты школы-интерната несколько лет назад участвовали в специальных Олимпийских играх, которые проводились в штате Миннесота (США). В прошлом году они вновь стали чемпионами республики среди детей с ограниченными возможностями по мини-футболу и волейболу и заслужили право участвовать в специальных Олимпийских играх, которые на этот раз пройдут в Ирландии. Однако для поездки на туманный Альбион у школы нет средств. Итальянцы пообещали помочь организовать эту поездку и оказать школе материальную поддержку.

Между дирекцией школы и представителями Фонда достигнута также договорённость на участие волейболистов школы в чемпионате Европы, который пройдёт в этом году в Англии. Они обязались спонсировать команду юных спортсменов.

И ещё несколько важных договорённостей было достигнуто во время визита зарубежных гостей в Ганцевичи. Уже летом этого года итальянцы пообещали организовать поездку большой группы учащихся на оздоровление в Италию, а в октябре этого года направить для учащихся школы-интерната поезд с гуманитарной помощью. Все эти обещания и ученики, и педагоги встретили с большим одобрением.

Заключительным аккордом визита гостей в Ганцевичи стала игра в волейбол между школьной сборной и сборной итальянцев. Она проходила в упорной борьбе, но закончилась вничью. Это и есть главный итог встречи — победила дружба, у которой нет границ.

Константин МОХОР

Новости

## Приз «Толоки» — у Галины Рабцевич

Недавно редакции газет и журналов Беларуси подвели итоги подписки на первый квартал 2003 года среди работников отделений связи республики. Редакция республиканской газеты «Толока» за значительное увеличение подписки на своё издание наградила ценным призом заведующую Ганцевичским сельским отделением связи Галину Васильевну Рабцевич.

И это не последнее поощрение лучшего распространителя периодики. За весомый вклад в подписную кампанию Галина Васильевна отмечена также призом редакции газеты «Ганцавіцкі час».

И вообще, подписная кампания на первый квартал в Ганцевичском сельском отделении связи прошла активно, на высоком уровне. Жители деревни, которую оно обслуживает, выписали более 630 экземпляров газет и журналов различных наименований, что превышает установленную отделению связи норму.

Константин МОХОР

Есть вопрос

## Всё повторяется…

1 марта, в субботу, в городской бане, владельцем которой является коммунальное унитарное многоотраслевое производственное предприятие «Ганцевичское РЖК», вновь отравились угарным газом несколько человек. У одной из женщин отравление было настолько серьёзным, что ей потребовалась срочная медицинская помощь. В баню была вызвана «неотложка».

Это уже не первый случай отравления людей в городской бане. В субботу, 15 февраля, подобное тут уже имело место, о чём мы писали в номере за 21 февраля (материал «Баня по-ганцевички»). В тот день в бане угарным газом отравилось сразу 12 человек. Двоим из них потребовалась срочная медицинская помощь. Что стало причиной отравления, так и не выяснено. Возникает закономерный вопрос: до каких пор городская баня будет выступать в роли камеры-душегубки? И, наконец, кто всё же ответит за нанесённый людям не только моральный, но и физический ущерб? Ответа на эти вопросы мы вправе ожидать от руководства КУМПП «Ганцевичское ЖКХ», а также от районного центра гигиены и эпидемиологии.

Константин МОХОР

Наша почта

## Какой он, последний путь?

26 февраля мы хоронили близкого родственника. Провожать его в последний путь собрались десятки людей. Но этот путь оказался очень нелёгким. Не только горе невосполнимой утраты переполняло наши сердца, но и возмущение. Многие из нас, особенно пожилые люди, шли за гробом чуть ли не на четвереньках: от перекрёстка улица Заслонова до самого кладбища напоминала собой каток — вся была покрыта скользким льдом. Люди с трудом удерживались на ногах. К тому же улица здесь очень узкая. Когда-то кто-то в целях экономии проложил здесь асфальтобетонное покрытие по ширине не в два ряда, как требовалось, а в один. От этого покрытая льдом проезжая часть напоминала горб верблюда. А ведь эту дорогу при маломальском желании можно было бы благоустроить. Достаточно посыпать её песком — и никаких проблем не возникало бы. Но до этого в коммунальном унитарном многоотраслевом предприятии «Ганцевичское ЖКХ» пока не додумались.

Валентина ПОВЕРИНОВА, жительница г. Ганцевичи

Криминал

## Кровавая ссора

25 февраля в деревне Большие Круговичи после совместного распития спиртных напитков муж и жена С. начали выяснять отношения между собой. В пылу ссоры муж схватил кухонный нож и ударил им в живот свою избранницу. С тяжелой травмой брюшной полости, опасной для жизни, незадачливая спорщица была немедленно отправлена в больницу, а её благоверный — в камеру предварительного заключения районного отдела внутренних дел.

Кровавые ссоры между супругами в этой семье возникали и раньше. Односельчане помнят, как после одного из таких очередных случаев выяснения отношений «слабая половина» ударила мужа ножом в шею. О непредсказуемости поведения этой пары свидетельствует и тот факт, что несколькими годами ранее С. облил себя бензином и поджог. Живой факел тогда удалось погасить подоспевшим соседям.

Василий ВОРОН

## Умерших больше

В феврале 2003 года в Ганцевичском районе родилось 30 детей.

В то же время за этот период умерло 47 человек.

# «Надоело бояться. Хватит!»

*«Мы обеспокоены тем, что экономический кризис в стране углубляется. Более трети предприятий Беларуси убыточны, их продукция неконкурентоспособна. Высокий уровень инфляции, скрытая и явная безработица, неудержимый рост цен на продукты питания, коммунальные услуги, проезд в пассажирском автотранспорте поставили значительную часть населения на грань выживания. Люди лишены социальных гарантий и не видят перспективы. Как результат – обостряется демографическая ситуация: женщины боятся рожать детей, потому что нет уверенности в том, что семья сможет их прокормить. Вместе с тем прогрессирует, становится массовым алкоголизм. Нация вымирает. Ежегодно наша страна теряет население города, равное Кобрину или Слониму...»*



Фото Владимира Дзюбы

• **Перед участниками «круглого стола» выступает Михаил Маринич**

Эти строки из программного заявления депутатской группы «Республика», Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь стали лейтмотивом проведения 27 февраля «круглого стола» под названием «Независимая Беларусь объединяет нас», посвященного 85-ой годовщине со дня образования Белорусской Народной Республики. Чтобы сорвать это мероприятие, официальные власти пустили в ход все дозволенные и недозволенные методы. Из Администрации президента пришло прямое указание отменить «круглый стол». Тем не менее строптивые депутаты все же пригласили в Парламент лидеров и представителей всех восемнадцати зарегистрированных Минюстом политических партий, ведущих общественных организаций, представителей интеллигенции и журналистов. Также приглашения были разосланы в Федерацию профсоюзов, в Министерство иностранных дел, Министерство культуры и Комитет государственной безопасности. В отличие от представителей государственных структур оппозиционно настроенные к власти политики, интеллигенция, а также журналисты к намеченному времени собрались у входа в Палату представителей. И тут выяснилось, что депутатам отказали в предоставлении в стенах Белорусского парламента помещения для проведения «круглого стола». Тогда членам депутатской группы «Республика» пришлось воспользоваться своим законным правом и пригласить участников мероприятия внутрь здания посредством выписки персональных пропусков. Но и после этого мероприятие не началось. Неожиданно исчез ключ от 567-го кабинета, где должна была состояться встреча. *«Мои двадцатипятиминутные поиски ключа успехом так и не увенчались,* – признался один из членов депутатской группы «Республика» генерал Фролов. – *Я обошел всех, начиная с уборщиц и заканчивая начальником секретариата. Все кивают друг на друга, а конкретно пояснить ничего не могут. И лишь побеседовав с комендантом, я понял, что перед всеми техническими работниками Палаты представителей поставлена четкая задача: ключ не должен быть найден. После этого я вынужден был прекратить бесплодные поиски».* Информацию дополнил лидер депутатской группы «Республика» Владимир Парфенович: *«Когда нам запретили приглашать людей по спискам, и мы вынуждены были выписывать персональные пропуска, то никак не могли найти человека, который занимается этим. Кабинет его был заперт, на стук и на телефонные звонки никто не отзывался. И только когда мы нашли ключ и открыли кабинет, то обнаружили там этого человека... У нас нет официальных подтверждений, но мы на сто процентов уверены, что команда «не пущать» поступила от Урала Латыпова».*

И все же, несмотря на чинимые препятствия, «круглый стол» состоялся. В его работе приняли участие члены депутатской группы «Республика», председатель партии БНФ «Адраджэнне» Винцук Вячорка, лидер Объединенной гражданской партии Анатолий Лебедько, заместитель председателя Социал-демократической партии «Народная Грамада» Владимир Нистюк, председатель «Таварыства беларускай мовы» Олег Трусов, председатель Белорусского Хельсинк-ского комитета Татьяна Протько, лидер Молодого фронта Павел Северинец, президент Международной общественной организации «Белорусская ассоциация «Деловая инициатива» Михаил Маринич, поэт Геннадий Буравкин, председатель Союза художников Владимир Басалыга и другие приглашенные.

Они единодушно заявили о необходимости сохранения суверенитета Беларуси и проведения в стране социально-экономических реформ. Также во время заседания «круглого стола» депутаты Валерий Фролов и Владимир Парфенович заявили, что они вошли в состав оргкомитета по проведению народного марша «За лучшую жизнь», который должен состояться в Минске 12 марта. Отвечая на вопрос журналистов, не боится ли он последствий этого рискованного шага, депутат Палаты представителей Народного собрания Республики Беларусь Валерий Фролов ответил: *«Не боюсь. Страхи все оставил. Надоело бояться, хватит! В конце концов, я живу в родной стране».*

# Урыўкі з выступленняў удзельнікаў «круглага



**Генадзь Бураўкін, паэт**

*«...Я ні ў якой партыі не быў і зараз не знаходжуся. Я беспартыйны, свядома беспартыйны чалавек. Але я не мог сюды не прыйсці, бо ў той фармулёўцы, якую нам прапанавалі, ёсць словы «незалежнасць Беларусі...»*

*«...Я не вучоны, не тэарэтык, але не магу не падзяліцца адчуваннем, скурай адчуваю, што мы перажываем страшна цяжкі перыяд, калі над назалежнасцю нашай навісла рэальная пагроза...»*

*«... Мы сёння ўбачылі, што такое ў нас – незалежнасць. Ключ больш незалежны ў нечых руках, чым нашы пашпарты грамадзян Беларусі, чым тое, што мы для Беларусі зрабілі, хто менш, хто больш, чым тое, што ў нас ёсць сэрца, адданае Беларусі... Ключ! Іржавы ключ!.. Якім сёння закрылі кабінет, заўтра закрыюць нашы думкі, а паслязаўтра закрыюць Беларусь і аднясуць гэты ключ у Крэмль. І там ён нікому не будзе патрэбен, яго выкінуць у Масква-раку...»*



**Уладзімір Нісцюк, намеснік старшыні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада»**

*«...Трэба прызнаць, што сёння ўжо шмат якіх момантаў незалежнасці мы пазбавіліся. Тое, што зараз да 90% сыравіны, паліва і гэдак далей ідзе з Расіі, што туды мы пастаўляем каля 65% нашай прадукцыі, гаворыць пра тое, што мы не незалежны ў эканамічным сэнсе. І гэта сёння галоўная небяспека. Палітычная незалежнасць – гэта толькі другі паверх незалежнасці ўвогуле. Першы паверх і падмурак, на якім стаіць незалежнасць, гэта эканоміка. І таму я хацеў бы пажадаць нашым дэпутатам, каб яны былі вельмі ўважлівыя пры абмеркаванні і вырашэнні пытанняў прыватызацыі беларускай маёмасці. Зараз мы ведаем, што робіцца з "Белтрансгазам": яго наўмысна апускаюць да ніжэйшага ўзроўню каштоўнасці, каб потым за капейкі прадаць ці перадаць за даўгі беларускага ўрада перад расійскім «Газпрамам». Небяспека зараз існуе і перад нашымі галоўнымі ліквіднымі прадпрыемствамі «Нафтахіміі». І трэба быць вельмі ўважлівымі і, абапіраючыся на нашу падтрымку, змагацца за тое, каб мы не пазбавіліся беларускай маёмасці і не згубілі тое, ад чаго на самой справе залежыць наша незалежнасць...»*



**Павел Севярынец, лідэр Маладога фронту:** (звяртаючыся да сябраў дэпутацкай групы "Рэспубліка")

*«...У беларускай мове слова "воля" мае два значэнні. Па-першае, гэта – рашучасць, а па-другое – свабода. Таму напярэдадні Дня Волі менавіта волі чакае народ ад беларускай эліты. Змаганне за свабоду і незалежнасць – гэта не проста палітыка, гэта часам барацьба, аб чым спартсмен Прафеновіч, я думаю, павінен ведаць, гэта нават і вайна, аб чым генерал Фралоў, здаецца, таксама здагадваецца. І штрафы, і адсідкі, і вулічныя шэсці, і дубінкі – гэта таксама сённяшняя беларуская палітыка і да гэтага варта быць гатовым».*

*«... Мы з вамі адказны не проста перад выбаршчыкамі, не проста перад грамадзянамі Беларусі, мы адказны перад Богам за гэтую краіну. Менавіта Гасподзь Бог даў нам гэту зямлю, гэту мову і гэту незалежнасць. Многія кажуць, яна з неба звалілася 27 ліпеня 1990 года. Падобна на тое. Бог даў нам гэту незалежнасць. І за яе трэба будзе яшчэ пакутаваць. І ў рэшце рэшт над гэтым будынкам, на гэтай плошчы, будзе бел-чырвона-белы сцяг, гэта краіна будзе сапраўды незалежнай. І менавіта тады будучыня, моладзь і гісторыя ацэняць тых, хто за незалежнасць змагаўся».*

Матэрыялы паласы падрыхтаваў удзельнік «круглага стала», нам. дырэктара выдавецкага дома «Інтэкс-прэс» Алег ПАНАМАРОЎ

## Выніковая заява ўдзельнікаў «круглага стала» «Незалежная Беларусь яднае нас»

Шаноўныя суайчыннікі, грамадзяне Рэспублікі Беларусь!

У гісторыі кожнага народа ёсць паваротныя знакавыя падзеі, якія асвятляюць яго шлях у будучыню, вызначаюць яго лёс. Для беларусаў выдатнай знамянальнай датай стала 25 сакавіка 1918 года, калі Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла Беларусь незалежнай дэмакратычнай дзяржавай. Так былі спраўджаны надзеі і воля лепшых сыноў і дачок Айчыны, якія змагаліся і аддалі сваё жыццё за гэты светлы і радасны дзень. Хаця Беларуская Народная Рэспубліка праіснавала нядоўга, але ідэі дзяржаўнасці і незалежнасці засталіся заўсёды неўміручымі. БНР стала падмуркам для цяперашняй незалежнай суверэннай Рэспублікі Беларусь, якую прызнала міжнароднае суполле. А таму 25 сакавіка, Дзень Волі, з'яўляецца нашым міжнародным святам.

Нягледзячы на значныя цяжкасці пераходнага перыяду ад таталітарызму да дэмакратыі, на новае чыноўніцка-бюракратычнае засілле, мы штодзённа пераконваемся ў тым, што толькі ў сваёй суверэннай дзяржаве беларускі народ можа стаць свабодным гаспадаром жыцця, можа сцвердзіць сябе, а сама дзяржава здольна заняць годнае месца сярод еўрапейскіх краін. Мы бачым каштоўнасць сваёй назалежнасці ў тым, што нашы сыны і ўнукі не гінуць у Чачні, што можна самастойна распараджацца ўласным багаццем, прыроднымі рэсурсамі, эканамічным і навуковым патэнцыялам, што маюцца ўмовы для нацыянальнага адраджэння, развіцця адукацыі і культуры. Развіваючы і ўмацоўваючы эканамічныя, навуковыя, культурныя сувязі з усімі краінамі свету, і ў першую чаргу з нашымі суседзямі, мы павінны добра ўсведамляць, што ні Захад, ні Усход не адораць нас цудам, не пабудуюць наш беларускі дом.

Сваё цывілізаванае, дэмакратычнае, прыстойнае жыццё нам давядзецца ладзіць самім, і не нейкімі рэвалюцыйнымі або валюнтарысцкімі наскокамі, а паўсядзённай плённай працай. Незалежнасць Беларусі, прагрэсіўнае рэфармаванне эканомікі і ўсіх галін грамадскага жыцця, самаадданая праца – гэта ўмовы для надыходу лепшай будучыні.

Паважаныя суайчыннікі, заклікаем ўсіх вас, прадстаўнікоў самых розных нацыянальнасцей, веравызнанняў, палітычных перакананняў, прыняць актыўна ўдзел у святкаванні 85-ай гадавіны незалежнасці Беларусі – Дня Волі. Мы звяртаемся да ўладных структураў: не змрочце гэты светлы, святы для кожнага беларуса дзень арыштамі, насіллем, пераследам удзельнікаў святкавання. Нас яднае незалежная Беларусь!

Удзельнікі "круглага стала" "Незалежная Беларусь яднае нас".

На конкурс: "Дапаможам птушкам"

# Ён побач і не рвецца ў вырай...

Дзівосныя істоты птушкі. Без іх было б сумным жыццё на зямлі. Радасна бачыць вясной ланцужкі стомленых птушак, што вяртаюцца дамоў з далёкіх краёў. Так і хочацца распытаць іх пра жыццё ў заморскіх краінах. Увесну кожны з нас спяшаецца паведаміць сваім блізкім ці знаёмым, што ён першы ўбачыў прыляцеўшых з выраю шпакоў ці буслоў.



• Адзін з шматлікіх малюнкаў, прадстаўленых на конкурс Кацярынай Сідарэвіч

Я вельмі люблю шпакоў. Хвалююся, калі ўбачу іх вясной упершыню. Яны быццам бы дождж з хмары падаюць з неба на галінкі дрэў, на шпакоўні, садзяцца на стрэхі хат, на высокія тэлевізійныя антэны. Усе чорна-бліскучыя, з жоўтымі дзюбамі, яны адразу пачынаюць спяваць свае простыя, немеладычныя песні, нібы гукаючы вясну.

У маі прылятаюць да нас салаўі. Яны жывуць недалёка ад майго дома, за аўтавакзалам і ў густым кустоўі ля завода домабудавання.

Цікава паназіраць за птушкамі і летам. Вабіць, чаруе сваёю песняй жаўрук. У яго такі цудоўны і звонкі галасок. Калі пачуеш яго песню, хочацца легчы на дзірване каля жыта, закласці рукі за галаў і, заплюшчыўшы вочы, слухаць жаўрука бясконца і думаць аб нечым сваім, патаемным.

Самая сумная для мяне пара — восень. Тады птушкі зноў адлятаюць у вырай. І нібы пусцее без іх зямля. Здаецца, што хтосьці блізкі пайшоў з мае хаты, і надоўга...

У гэтую слотную пару птушкі аддаляюцца ад чалавечага жытла. І толькі ў лесе, у гушчары, цўкаюць сініцы ды перастукваюцца паміж сабою дзятлы. Ім няма куды спяшацца, яны застаюцца зімаваць у родных краях.

Часцей іншых увосень сустракаюцца крумкачы. Яны сядзяць высока на ялінах і сочаць за тым, што робіцца наўкола. Я заўжды вітаю іх. Цікаўлюся, колькі гадоў пражылі яны на свеце. Што бачылі за гэты час. Але птушкі маўчаць. Аднак я ведаю, што за свой доўгі век яны пабачылі нямала.

Вельмі цяжка птушкам, што ніколі не пакідаюць сваю радзіму, калі на зямлю выпадае снег, прыціскае мароз. Ім цяжка тады знайсці для сябе ежу. Я шкадую крылатых і заўсёды майструю для іх сталоўкі, кладу ў іх сякуютакую птушыную ежу. Аднак да маіх кармушак сталаваецца прылятаюць чамусьці адны сініцы. Яны сілкуюцца на чарзе, саступаючы месца адно другому. Але і сярод іх ёсць "парушальнікі". Мне здаецца, што гэта "мужчыны". Яны нахабна адганяюць ад сталоўкі ўсіх птушак, пакуль не наядуцца самі.

Сярод сінічак з'явілася ў мяне сяброўка. Яна адрозніваецца ад астатніх хіба толькі тым, што на правым крыле ў яе менш пер'я. Калі яна падсілкуецца, то не адразу адлятае ад сталоўкі, а садзіцца паблізу і пазірае ў маё акно, з-за фіранак якога я назіраю за птушыным царствам. Перад адлётам яна абавязкова некалькі разоў цўкне, нібы дзякуючы мне за пачастунак.

Калі я забываю пакласці ў кармушку ежу, птушкі пачынаюць хваляваца, а найбольш смелыя з іх пачынаюць патрабавальна стукаць дзюбкамі ў шыбу майго акна, маўляў, не драмі, кармі нас. Паглядзіш на іх нахітрую мітусню, і на сэрцы становіцца лягчэй. Мне здаецца, што калі маёй душы будзе цяжка адлятаць на неба, яны дапамогуць ёй сваімі крыламі.

Зусім нядаўна каля Свята-Ціханаўскай царквы я ўбачыў снегіроў. Было іх усяго тры. Мала. Але, сустрэўшы іх, я нібы вярнуўся ў сваё бясклапотнае дзяцінства. У маіх успамінах яны і зараз быццам чырвоныя яблыкі, парасkіданыя на бялюткім снезе ў бацькоўскім садзе.

Але найбольш астатніх птушак мне падабаюцца вераб'і. Яны вельмі падобныя на нас, беларусаў. Такія ж працавітыя, клапатлівыя, непрыкметныя. Гэтыя птушкі заўсёды трымаюцца людскога жытла. На жаль, у апошнія гады яны пачалі знікаць і ўжо занесены ў Чырвоную Кнігу Беларусі. Мне вельмі шкада іх, і я прысвяціў вераб'ям свой верш:

*Сярод птушак вялікіх і*
*дробных*
*Клапатлівы жыве*
*верабей*
*Мала з іх на каго ён*
*падобны —*
*Так бывае і ў нас,*
*у людзей.*
*Хоць і дзюбка ў яго малая,*
*Невялікія, кволыя крылы*
*Ежу сам ён сабе здабывае,*
*На свае спадзяваецца*
*сілы.*
*У шпакоўні ўсю зіму*
*зімуе,*
*А вясной прагаляюць*
*шпакі.*
*Калі дожджык сячэ, дні*
*сумуе,*
*Пазірае з-пад чорнай*
*страхі.*
*Вельмі цяжка ў жыцці*
*вераб'ю*
*З яго добрай душою і*
*шчырай.*
*Я шкадую яго і люблю,*
*Бо ён побач — не рвецца*
*ў вырай...*

Алесь ГАЛАСКОК

По старонках перыёдыкі

## Гісторыя раёна газетным радком (1947 – 1948 гг.)

### Свяціца адбудоўваецца

10 новых зрубаў пабудаваны ў ліпені і ў жніўні ў в. Свяціца Навасёлкаўскага сельсавета (Свяціца да 1958 года ўваходзіла ў склад Ганцавіцкага раёна. Цяпер Ляхавіцкі раён. – заўв. аўтара). Распачалі будаўніцтва яшчэ 17 сялян.

Сельскі Савет аказвае забудоўшчыкам дапамогу цяглавай сілай у падвозцы лесаматэрыялаў к месцу будаўніцтва.

70-гадовы Курыловіч Рыгор першым у Свяціцы пасяліўся ва ўласна пабудаваным доме.

М. Русакевіч.

10 жніўня 1947 г.

### Новыя школы

У гэтым навучальным годзе ў вёсках Ельня, Ходава, Яловая, Ясянец адкрыты новыя пачатковыя школы.

У вёсцы Чудзін адкрыта новая сямігадовая школа. Дзякуючы Савецкай уладзе ў школах навучаецца каля 4,5 тысячы дзяцей працоўных.

28 верасня 1947 г.

### Лепшая паравозная брыгада

Уключыўшыся ў перадкастрычніцкае сацыялістычнае спаборніцтва, паравозная брыгада І. Жалезнага вузкакалейнай чыгункі штодзённа перавозіць па 200-300 кубічных метраў лесаматэрыялаў на адлегласць 50 кіламетраў, выконваючы месячны вытворчы план на 150%.

У склад брыгады ўваходзяць машыніст Іван Жыгун, памочнік машыніста Васіль Пішч, кандуктар Ігнат Беразоўскі.

7 лістапада 1947 г.

### Расшыраецца гандлёвая сетка

У Чудзінскім сельсавеце добра наладжана работа па расшырэнню гандлёвай сеткі. Толькі ў гэтым годзе ў вёсках Пярэвалакі, Новы Рожан, Красныя Хутары (цяпер Салігорскі раён) адкрыты новыя магазіны. Новы магазін пабудаваны і ў вёсцы Вялікі Рожан.

Ва ўсе магазіны завезена вялікая колькасць тавараў — мануфактуры, гатовае адзенне, абутак, шорныя вырабы і іншае.

К. Рэлік.

22 красавіка 1948 г.

### Тэлефанізацыя раёна

Уступіла ў эксплуатацыю тэлефонная лінія, звязваючая Лактышоўскі сельсавет з райцэнтрам. Усе падрыхтоўчыя работы для праводкі лініі былі выкананы сялянамі вёсак Лактышы і Нач.

Падвеску праводаў і ўстаноўку апаратуры правяла брыгада т. Мыца на працягу двух дзён.

25 ліпеня пачала працаваць другая тэлефонная лінія — на Дзяніскавічы.

Застаўся ў раёне нетэлефанізаваным толькі адзін сельсавет — Навасёлкаўскі. Але ўжо пачаліся падрыхтоўчыя работы для праводкі тэлефоннай лініі ў гэты сельсавет сіламі моладзі з Навасёлак.

Г. Плясаў.

29 ліпеня 1948 г.

Па старонках ганцавіцкай раённай газеты "Сялянская праўда" падрыхтаваў Кастусь МОХАР

На заметку

## Маленькие хитрости

Никелированные вещи, краны, кастрюли можно освежить, протерев их уксусом с солью.

Если вдруг станет протекать керамическая ваза, не огорчайтесь. Налейте на её дно немного любого лака и кисточкой размажьте по стенкам. Образуется плотная непромокаемая плёнка.

Тупой нож легче заточить, если предварительно подержать его с полчаса в солевом растворе.

Стеклянная посуда заблестит, если после мытья её ополоснуть сначала подсоленной, а затем обычной водой.

Бутылки хорошо мыть, бросив в них кусочки мелко нарезанного картофеля и встряхивая их некоторое время.

Подготовил Константин МОХОР

Ведай свой край

# Вёска Чудзін у сучаснай гісторыі

У папярэдніх нумарах нашай газеты мы распавядалі пра даўнюю гісторыю старажытнай вёскі Чудзін, што раскінулася на берагах паўнаводнай у гэтых мясцінах і маляўнічай Лані. Сённяшні наш аповед пра гісторыю больш блізкую...

Ліхія гадзіны перажылі вольналюбівыя чудзінцы ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Адразу ж пасля прыходу нямецка-фашысцкіх захопнікаў многія з іх падаліся ў лясы, каб са зброяй у руках біць ворага. Партызаны рабілі смелыя рэйды па тылах праціўніка, з вялікім поспехам вялі "рэйкавую вайну". За час баявых дзеянняў народных мсціўцаў пусцілі пад адхон 69 варожых эшалонаў з жывой сілай і баявой тэхнікай праціўніка, разбілі 37 цягнікоў, 1415 вагонаў, знішчылі больш за 1635 гітлераўскіх салдат. Пасля вызвалення Беларусі ў ліпені 1944 года большасць партызан уліліся ў рады Чырвонай Арміі і праганялі гнаць ворага да Берліна. Былі сярод вызваліцеляў і дзесяткі чудзінцаў. 38 чалавек загінулі ў барацьбе з ворагам і не вярнуліся да родных парогаў.

Чудзінцы праявілі на фронце сапраўдны гераізм. Яны і сёння могуць ганарыцца подзвігам свайго аднавяскоўца Паўла Паўлавіча Рулінскага, былога вясковага настаўніка. 16 лютага 1945 года каля горада Хатэнштайн ва Усходняй Прусіі адважны чырвонаармеец кінуўся з гранатамі пад варожы танк і цаной свайго жыцця перадараў яго.

Такімі ж самаахвярнымі былі і іншыя яго землякі. Многія былыя франтавікі ўзнагароджаны высокімі баявымі ўзнагародамі. Ордэнаў Славы розных ступеняў былі ўдастоены Сяргей Дайлід, Рыгор Барсукевіч, павел Зажэка, Рыгор Кандрацеля, Фёдар Каско, ордэнаў Чырвонай Зоркі пракоп В'юнік, Васіль Савеня, Васіль Сергіеня...

Забягаючы наперад, хочацца сказаць, што салдацкую славу сваіх бацькоў пацвердзілі і нашы сучаснікі ў перыяд вайны ў Афганістане. Двое маладых чудзінцаў Генадзь Коберац і Сцяпан Тонка ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Анатоль Кіцік удастоены медалёў "За адвагу" і "За баявыя заслугі".

Адгрымела вайна. Салдаты вярнуліся да родных сяліб. Менавіта іх намаганнямі ў Чудзіне быў створаны адзін з першых пасляваенных калгасаў на Ганцаўшчыне.

Цяпер вёска Чудзін — гэта буйны населены пункт Ганцавіцкага раёна, дзе жыве больш за тысячу чалавек. У вёсцы працуюць Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы садяслі, лясніцтва, бібліятэка, аддзяленне сувязі, участковая бальніца, некалькі магазінаў і г.д.



Фота Пятра Гузаеўскага

• Вясковая вуліца сёння

А яшчэ славіцца Чудзін тым, што тут нарадзіліся вядомыя на ўсю Беларусь самабытныя паэты Алесь Каско і Ірына Дарафейчук, чыя творчасць радуе мільёны нашых суайчыннікаў. Іх таленты зрадні таленту Алеся Сержпутоўскага, які ў пачатку XX стагоддзя жыў і працаваў на гэтай слаўнай зямлі.

Кастусь МОХАР

